Наша Свабода
№10(97) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

26 СТУДЗЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Хто ёсць у РусБеліі галоўны?

## Беларусь і Расія пачалі «высвятляць адносіны»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**«Скандал на камунальнай кухні» – менавіта так можна ахарактарызаваць спрэчку паміж афіцыйнымі асобамі ў Маскве і Мінску наконт выконваючага абавязкі дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.**





Учора зранку прэм'ер-міністр Расіі Міхаіл Касьянаў падпісаў распараджэнне аб прызначэнні часова выконваючым абавязкі дзяржсакратара Ігара Селіванава, грамадзяніна Расіі, які дагэтуль быў намеснікам Паўла Барадзіна.

Гэта адразу выклікала буру пратэстаў з беларускага боку. «На месцы Паўла Барадзіна мусіў апынуцца прадстаўнік Беларусі!» – у такім сэнсе былі вытрыманыя ваявы кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча і паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта, віцэ-прэм'ера Леаніда Козіка.

Намеснік прэм'ер-міністра ўвогуле заявіў: «Гэтыя дзеянні не правамерныя. У наянасці відавочнае перавышэнне паўнамоцтваў. Прызначэнне новага дзяржсакратара без узгаднення з беларускім бокам сведчыць аб безумоўным парушэнні сваіх уладных паўнамоцтваў кіраўніком саюзнага ўрада». Камэнтар М.Мясніковіча быў больш стрыманы: маўляў, памылілася Масква, восьзараз разбяруцца і адкруціць назад.

Дакладна невядома, на што Беларусі спатрэбіўся гэты скандал. Магчыма, А.Лукашэнка пасля сваіх амаль напалеонаўскіх уцёкаў з Масквы ў аўторак адчуў, што губляе кантроль над сітуацыяй і што неабходна ўзмацняць свае флангі. А можа, наадварот – захацелася ў перспектыве займець у буржуйскіх засценках свайго нацыянальнага пакутніка за справу аб'яднання.

Але гэтую ініцыятыву – як і шмат іншых, што з'явіліся ў апошні час у разумных галовах на Карла Маркса, 38 – чакаў поўны правал. Расіяне ад свайго прызначэння не адмовіліся. Міхаіл Касьянаў падкрэсліў, што прызначаў І.Селіванава не як прэм'ер-міністр Расіі, а як старшыня Савета міністраў Саюзнай дзяржавы.

Дарэчы, паводле статута гэтага міфічнага аб'яднання, дзяржаўны сакратар мае шэсць намеснікаў: тры ад Беларусі і тры ад Расіі. І расійскі бок нагадаў беларускаму, што пасада дзяржсакратара ўвогуле «замацаваная» за Расіяй. Таму, маўляў, Мінску няма чаго выступаць.

Беларусам жа, паводле гэтай логікі, застаецца чакаць, пакуль услед за Паўлам Барадзіным не перасаджаюць усіх трох намеснікаў – тады на вакантнае месца можа сесці чалавек з Мінска. Але не раней.

Варта зазначыць, што Ігар Селіванаў – чалавек, дастаткова кампетэнтны ў справе кіравання фінансавымі патокамі. З 1980 па 1994 і з 1998 па 2000 гады працаваў у міністэрстве фінансаў СССР і Расіі, двойчы даслужваўся да пасады намесніка міністра.

Тым часам, лёс самога Паўла Барадзіна застаецца пакуль не вызначаным. На момант здачы нумара ў друк ён яшчэ заставаўся за кратамі бруклінскай турмы. Дарэчы, як зазначыў ягоны прэс-сакратар Іван Макушок, афіцыйны тэрмін камандзіроўкі П.Барадзіна ў Нью-Йорк скончыўся яшчэ ў панядзелак. Відавочна, што калі дзяржсакратар не паспяшаецца заняць рабочае месца, то можа быць звольнены за прагул. ■

# Лукашенко не пустили в Кремль

Елена ШИШКУНОВА

**Президент Беларуси Александр Лукашенко прилетал во вторник в Москву с рабочим двухдневным визитом во второй раз за последние семь дней. Формальным поводом для поездки на этот раз стало вручение ему премии «За выдающуюся деятельность по укреплению единства православных народов». На самом деле Лукашенко приезжал к Путину за советом, но тот его не дал.**

Александр Лукашенко несколько утомил Путина. На прошлой неделе белорусский президент приезжал расслабиться и поиграть в хоккей. Само собой, не обошлось без встречи с Путиным и обсуждения важных государственных проблем. Во вторник Лукашенко прилетал уже на вручение себе премии международного фонда «Единство православных народов» (помимо него обладателями награды «За выдающуюся деятельность по укреплению единства православных народов» стали глава «Газпрома» Рэм Вяхирев и председатель палаты представителей республики Кипр Спирос Киприану). Но всем было очевидно, что получение премии – лишь повод для визита. На самом деле Лукашенко очень хотел увидеть Путина.

К Путину у Лукашенко было важное и срочное дело. Бородина нужно спасать, а Москва, по мнению главы Беларуси, както не очень активна в этом деле. А главное – Лукашенко явно не знает, как к этой проблеме относится его российский коллега. Попытки навести справки по дипканалам результатов не дали. Даже Грызлов, встречавшийся с Путиным специально по этой теме, ничего путного по итогам беседы с президентом не сказал. Вроде бы тот внимательно следит за ситуацией, но виду не подает – ни словом, ни жестом. Лукашенко попытался припереть Путина к стенке, но из этого ничего хорошего, как можно было заранее догадаться, не вышло – тот просто отказался с ним встречаться. Причем, судя по всему, в достаточно грубой форме. В результате белорусский батько, сославшись на неотложные дела в Минске, досрочно убыл на родину.

Что касается позиции по Бородину, то президент Белоруссии высказал ее, едва отойдя от трапа самолета во «Внуково-2». Лукашенко заявил, что намерен твердо отстаивать права Бородина, задержанного ФБР в Нью-Йорке. «Я, как председатель Высшего госсовета союзного государства России и Белоруссии, обязан защищать этого человека», – подчеркнул он, добавив, что точно так же защищал бы любого на этом посту. И в этом деле белорусскую сторону ничто не остановит. «Мы готовы к любым шагам», – грозно заявил Лукашенко. И тут же обвинил США в финансовой нечистоплотности. «Америке нечего себя рядить в тогу защитника российских денег, она сама вывезла из России и отмыла триллион долларов, а Бородину клеит не то 16, не то 26 миллионов», – заявил Александр Григорьевич.

Уверенности Минску в эффективности борьбы с Соединенными Штатами придает, видимо, и приобретенный еще в 1998 году положительный опыт. Разразившийся тогда так называемый посольский скандал (послы 22 государств по решению правительства были выселены с территории президентской резиденции «Дрозды») побудил американцев и европейцев на некоторое время заморозить отношения с Белоруссией и отозвать послов. Минск же, будучи уверен в своей правоте («резиденция предоставлялась послам временно»), спокойно пережил конфликт и в конце концов добился своего – послы вернулись.

До того как Путин отказал ему в беседе, у Лукашенко вполне могло хватить смелости предпринять в отношении США какой-нибудь аналогичный демарш. Например, еще раз выселить американского посла или даже отозвать своего из Вашингтона. Но теперь – после того, как Лукашенко уехал из Москвы униженным и оскорбленным (до сих пор его так грубо посылали только на Западе) – активность Минска в общем деле двух братских администраций по освобождению Бородина явно сойдет на нет. А все потому, что Путин, судя по последним заявлениям его доверенных лиц, до сих пор не решил, как относиться к скандалу с госсекретарем и что ему выгоднее – публично встать на защиту крупного госчиновника, обвиняемого в коррупции, или отказаться от публичного вмешательства в скандал. И в первом, и во втором случае друзья Путина и его оппоненты сделают совершенно определенные выводы о подоплеке скандала. Но в том-то и дело, что подавать знак ни тем, ни другим Владимир Владимирович пока не готов. ■

gazeta.ru

## НАВІНЫ

■ **У Беларусі зноў падаражэлі кошты на паслугі электрасувязі. Абаненцкая плата за тэлефон з пагадзіннай аплатай узрасла на 15% — з 380 да 437 рублёў.** Таксафонная магнітная картка на 120 хвілінаў падаражэла на 8% — з 935 да 1.010 рублёў. Павялічыўся таксама тарыф радыёкропкі і перасылкі тэлеграмаў.

■ **Міністэрства адукацыі паведамляе, што сёлета ў ВНУ чакаецца самы вялікі за апошнія гады наплыў абітурыентаў.** Яшчэ больш, чымсьці 65 тысячаў чалавек на 25 тысячаў месцаў. Справа ў тым, што ў 2001 годзе выпускнікамі школаў стануць тыя, хто нарадзіўся ў 1984 годзе, калі быў зафіксаваны самы пік нараджальнасці.

■ **Сёлета па праграме TACIS Еўракамісія ЕС выдаткуе 1,3 мільёна еўра на дэмаркацыю беларуска-літоўскай мяжы.** З дзяржаўнага бюджэту Беларусі на гэта будзе выдзелена 2 мільёны долараў, што дазволіць правесці дэмаркацыю участка мяжы на 100 км (уся працягласць мяжы – 650 км). Поўная дэмаркацыя будзе завершаная ў 2005 годзе.

■ **Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі, вытворчасць шаўковых тканін на швейных прадпрыемствах летась у параўнанні з 1999 годам скарацілася на 13%.** У параўнанні з 1990 годам – наогул на 70%. Аналагічныя паказчыкі па вырабе льняных тканінаў – 33% і 65%.

■ **За 11 месяцаў 2000 года запазычанасць за энергарэсурсы ў Беларусі павялічылася амаль у 4 разы і складала 1.764 мільярда рублёў.** Прычым на запазычанасць па энерганосьбітах прыпадае прыкладна палова ад усёй сумы леташняй запазычанасці за тавары і паслугі.

■ **У 2000 годзе ваеннымі судамі разгледжана 428 крымінальных справаў. Асуджана 583 чалавекі.** Сярод злачынстваў, па якіх праходзілі ваенныя летась, крадзяжы складаюць 30%, нестатутныя адносіны — 13%, злоўжыванне ўладай і ўхіленне ад вайсковай службы — 10%, хуліганства – 9%.

■ **Летась Мінскі трактарны завод выпусціў 22,5 тысячы трактароў. Гэта на 18% менеи, чымсьці ў 1999 годзе.** Мінулагодні экспарт склаў 3,6 тысячы трактароў. Між тым на заводскіх складах знаходзіцца яшчэ 3,6 тысячы трактароў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

Віцебск 0 +3
Мінск -5 +2
Магілёў +4 +8
Гродна +4 +8
Брэст +1 +8
Гомель +4 +8



Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



# Аб захаванні беларускіх інвестараў ў гета і рэзервацыях

**Ганорыс КАУЗА,**
**доктар эканомікі, карэнны беларус з універсітэта Крана, штат Мантана**

**Усе кажуць, што патрэбныя нашай гістарычнай бацькаўшчыне інвестыцыі. Мы тут, землякі ва універсітэце, аднаго разу дадумаліся, хто іх дасць. Іх дасць айчынны інвестар. Але пра яго мусіць клапаціцца ўрад. Маю на тое адпаведны праект.**



Прачытаў я ў часопісе *Scientific American* пра гепардаў у Паўднёвай Афрыцы. Навукоўцы занепакоеныя: гепарды жывуць далёка адзін ад аднаго і маюць вялікі клопат дзеля стасункаў паміж сабой. З тае прычыны іх усё меней. Бо людзі саваны ўзаралі, гасцінцы і чыгункі пабудавалі, і праз усё гэтае не рызыкуе пралезці палахлівы драпежнік.

Такім чынам, збыт вялікі арэал існавання экзатычнае папуляцыі вядзе да яе змяншэння і пагражае знікненнем. Некалі, як паведамляе славуты энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона, беларусы вяліся ад Беластока, які зараз у Польшчы, аж да Мажайска, што блізка Масквы. З цягам часу лясы павысякалі, балоты павысушвалі, правялі Кастрычніцкую рэвалюцыю, індустрыялізацыю, калектывізацыю, не кажучы ўжо пра немцаў.

Шэраг гэтых жудасных падзеяў давяршылі Праграма пабудовы камунізму і мэтанакіраванае фармаванне новай супольнасці людзей — «советского народа».

У выніку беларусаў амаль не засталося нават у Вільні. Затое «советский человек» значна пашырыў межы свайго існавання. Сёння, дарма што быў перапіс, ні ў каго няма грунтоўнай інфармацыі пра колькасць беларусаў. Гэта істотна, бо беларус вельмі падобны да «советского человека», а пры гібрыдызацыі атрымліваюцца толькі «советские люди».

Усё гэтае ўскладняе праблему ідэнтыфікацыі беларусаў. Патрэбен новы перапіс. Каго падчас перапісу адносіць да беларусаў? Зразумела тых, хто жадае Айчыне найлепшага і плаціць ёй падаткі. («Советский человек» магчыма і плаціць Беларусі падаткі, але нічога добрага ёй не жадае, а чакае «воссоединения».)

У сваім допісе даводжу да ведама грамадскасці найноўшую методыку выяўлення беларусаў. У прыватнасці, тога іх роду, які завецца «беларускі падаткаплацельшчык», па-лацінску *investoria albarossicus*, надалей ІА, што эмпірычна вынайдзены падчас аднаго буйнога сацыялагічнага даследавання.

Рэпрэзентатыўнае даследаванне выявіла, што галоўнай прыкметай *investoria albarossicus* ёсць узровень дасведчанасці аб капіталістычным рынку, што імкнецца да нуля. Дзякуй Богу, пры тым адсутнічаюць у ягонай псіхіцы разбуральныя тэндэнцыі, уласцівыя «советскому человеку».

Мы, між іншым, не адмаўляем у праве на жыццё гіпотэзе аб тым, што вельмі пакрыўджаныя ІА могуць прыйсці куды-небудзь на пляц Бангалор у досыць вялікай колькасці, каб ціхенька пратэставаць.

На пытанне аб сутнасці прыватызацыі ІА адказвае: «Я не ведаю, ці была прыватызацыя, не ведаю, ці ідзе яна наогул, нат не хачу ведаць, калі яна скончыцца, але ведаю напэўна, каму ўсё будзе належаць, і перакананы, што мне нічога не хопіць».

Пасля чаго ІА вяртаецца да перарванага вытворчага працэсу, бо з дзяцінства зацвердзіў: «Паміраць збірайся, а жыта сей». Ён збіраецца, сее і лічыць сацыёлага дурнем, бо кожны трэці ІА ўпэўнены ў тым, што ўжо мае каштоўныя паперы. Таксама лічылі дурнямі еўрапейскіх купцоў якія-небудзь іракезы, выменьваючы футры на шкляныя каралі.

Сапраўды, 20% апытаных называюць каштоўнымі паперамі сертыфікаты акцыяў, а 14% — латарэйныя білеты. З іншага боку, словаспалучэнне «каштоўныя паперы» выклікае ў ІА неспадзяваныя дзеля ўлады асацыяцыі. Напрыклад, палова ІА лічыць, што так званыя чэкі «Маёмасць» не ёсць каштоўнай паперай (а можа яны і не памыляюцца?), 57% не схільныя лічыць каштоўнымі паперамі акцыі беларускіх прадпрыемстваў, 83% — вексалі, а 20% наогул не ведае, што гэта за каштоўныя паперы.

Больш таго, тры чвэрці апытаных упэўненыя, што нельга выпускаць каштоўныя паперы акцыянерным таварыствам, а 84% — што гэтага не могуць рабіць камерцыйныя банкі, бо яны «крадуць і лопаюцца».

ІА ўжо з'елі палову нарыхтаванай на зіму бульбы і накрышанай капусты. Пад ціхае рохканне ацалелых парсючкоу яны чакаюць Пасхі і зусім не думаюць, што з імі стане, калі неўзабаве на несмяротную Бацькаўшчыну пральецца дождж з каштоўных расійскіх папераў.

Хто абароніць эканамічныя інтарэсы ІА? На каго ён спадзяецца? На каго заўгодна, толькі не на сябе. На нейкую гільдыю брокераў, што ўбачыў у чарговым серыяле, на АМАП, што ўплывае на эканамічную злачыннасць не болей, чым міністэрства сельскай гаспадаркі на каларадскіх жукоў, і г.д.

Кожны назіральнік будзе здзіўлены мужнасцю шэраговых ІА, 63% якіх чакае, што іхныя беды дазволяць некаму ўзбагаціцца, а чэкі «Маёмасць» не прынясуць ніякіх прыбыткаў. Чакае і нічога не робіць, каб прадухіліць небяспеку быць абдураным. Чакаюць па зусім натуральнай прычыне, бо дзве траціны з іх лічаць, што добра разумее ў гэтых рэчах.

Ёсць упэўненасць, што пацякуць беларускія грошы да ўсякага, хто пакажа сціпламу і працавітаму, талерантнаму і рупліваму і г.д. ІА ліцэнзію на гандаль каштоўнымі паперамі, пасведчанне на рэгістрацыю ў выканкаме, чырвоны савецкі пашпарт альбо нейкую іншую паперчыну, чым пацвердзіць сваё права прадаць гэтаму дзіваку тое, што дзівак гэты прызнае каштоўнай паперай.

ІА ахвотна набудзе тое, што ён лічыць каштоўнымі паперамі, незалежна ад таго, дзе гэта выраблена. Паколькі відавочна, што большая частка ІА не атрымае ні капейчыны дывідэндаў, а сканвертаваныя беларускія грошы паедуць далёка-далёка, ІА адчуюць сум, абурэнне, жах; іх апануе роспач, і ў ёй яны могуць выйсці на несанкцыяваныя месцы пратэсту, што пагражае захаванню апошняй версіі канстытуцыйнага ладу.

У выніку папуляцыя ІА, што не падрыхтаваная да карыстання набыткамі капіталістычнае еўрапейскае цывілізацыі, скароціцца на дзве траціны, бо толькі найбольш узорныя ягоныя экземпляры паслядоўна абыякавыя. 24% не збіраюцца не толькі купляць якія б то ні было паперы, але і наогул маніпуляваць з роднай дзяржавай славутымі чэкамі «Маёмасць» з нацыкаўскім малюнкам.

У мэтах захавання ІА прапаную пасля завяршэння мерапрыемстваў па эканамічнай уніфікацыі з Расіяй рэшткі папуляцыі ІА, што апынуцца раскіданыя далёка адна ад адной, сабраць у гарадскія гета і вясковыя рэзервацыі, забараніць туды ўваход і ўезд «советских людей», акцыянераў, брокераў, аўтарызаваных дылераў і пакінуць гадоў на дзвесце, забяспечыўшы соллю, газетамі НАША СВАБОДА і «Наша Ніва» і запалкамі. ■

**Матэрыял атрыманы рэдакцыяй праз інтэрнэт**

ЭКСПРЭС

## Прогнозы, долги, расчеты

**Андрей КАРПОВИЧ**

### Министерство связи Беларуси подвело итоги работы отрасли за 2000 год

За минувший год в Беларуси телефонизировано 164 населенных пункта. Однако не выполнен важнейший прогнозный показатель по росту экспорта товаров и услуг. В 2000 году экспорт в целом по министерству составил 45 млн. 221,7 тыс. долл. против 44 млн. 337,8 тыс. долл. в 1999-м (рост 102 проц. при прогнозе 103 проц.).

Импорт товаров и услуг вырос больше, чем планировалось. В целом по отрасли этот показатель достиг 39 млн. 809,8 тыс. долл. против 37 млн. 043,6 тыс. долл. в 1999 году (рост 107,5 проц. при прогнозе 102 проц.).

### В Италии состоится презентация торгово-экономических возможностей Беларуси

Белорусская торгово-промышленная палата по поручению министерства иностранных дел Республики Беларусь совместно с Посольством Республики Беларусь в Италии и Международным Центром торговых палат области Венето организует 3-9 марта 2001 года в городах Милан, Венеция и Виченца презентацию торгово-экономических возможностей Республики Беларусь.

В ходе презентации будут организованы переговоры представителей белорусских предприятий и организаций с потенциальными итальянскими партнерами, а также посещение одного из крупнейших выставочных комплексов в Европе – «Фиера Милано», где в это время будут проходить выставки: фармацевтических препаратов – *Europharmex*, обуви – *Micam Modacalzatura*, изделий из кожи – *Mipel*. ■



## Бензін таннее — на носе выбары

**Кірэй МАНУЙЛА**

З 23 студзеня ў Беларусі патаннелі кошты на нафтапрадукты. Зніжка ў сярэднім склала 5%. На дзяржаўных аўтазапраўках канцэрн «Белнафтахім» усталяваў такія расцэнкі: літр бензіну А-76 цяпер прадаецца за 450 рублёў, А-92 – за 556 рублёў, бензін АІ-95 стаў каштаваць 636 рублёў, дызельнае паліва – 383 рублі.

Многія задаюцца пытаннем, з чаго б гэта дзяржава робіць такі (хай і невялікі – усяго прыкладна на нейкія 30 рублёў) рэверанс у бок уладальнікаў аўто? Мінулымі гадамі бензін, як і ўсё астатняе, адно што даражэў, прычым па некалькі разоў на год. У «Белнафтахіме» зніжэнне паліўных коштаў тлумачаць тым, што мінуў леташні сусветны нафтавы крызіс і расійскія кампаніі зменшылі закупачныя цэны на нафту, а робіцца яно дзеля спрыяння канкурэнтаздольнасці на рынку нафтапрадуктаў і бесперашкоднага забеспячэння спажыўцоў палівам. Пры гэтым за студзень 2001 года на беларускіх нафтаперапрацоўчых заводах паліўнай сыравіны будзе перапрацавана на 8% меней за аб'ёмы папярэдніх месяцаў.

Выдае на тое, што галоўная прычына ў тым, што набліжаюцца прэзідэнцкія выбары. Паколькі ж малыя памеры цяперашняга патаннення бензіну кіроўцы могуць і не заўважыць, можна спрагназаваць, што падобны дагаджальны захад верагодна і паўторыцца. Прынамсі, да пасяўной.

Між тым беларускі бензін усё адно застаецца самым дарагім у СНД. ■

## Беларусь адстае на 30 гадоў

**Вольга АСІПЕНКА**

Беларусь на 30 гадоў адстае ад заходніх краінаў па тэхналагічных паказчыках, паведаміў 23 студзеня старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Анатоль Лесніковіч на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню беларускай навукі, які адзначаецца 24 студзеня.

Паколькі Беларусь — дзяржава невялікая, і дазволіць фундаментальныя даследаванні не ўяўляецца магчымым, навука, як лічыць Лесніковіч, павінна развівацца ў інтарэсах эканомікі, адукацыі і ўстойлівага развіцця грамадства. Асноўная ўвага ў Беларусі, паводле словаў старшыні Дзяржкамітэта, надаецца фундаментальным даследаванням — пачатку інавацыйнай дзейнасці. Для таго, каб ацаніць, наколькі вялікі і эфектыўны фундаментальны патэнцыял краіны, неабходна правесці акрэдытацыю невялікіх навуковых калектываў па пэўных крытэрыях. Такія калектывы і будуць прадстаўляць беларускую фундаментальную навуку на сусветным узроўні. Але для забеспячэння іх нармальнай дзейнасці неабходна даць магчымасць свабоднага развіцця і аказаць фінансавую падтрымку.

Зараз, як адзначыў старшыня Дзяржкамітэта, у свеце адбываецца інтэлектуальны перадзел. Знешне гэта выяўляецца ў міграцыі навуковых кадраў, паколькі перадавыя краіны могуць забяспечыць больш выгадныя ўмовы для працы і жыцця вучоных. Каб прыпыніць «уцечку мазгоў», неабходна палепшыць фінансаванне навукі дзяржавай.

Што да навуковых і вытворчых дасягненняў беларускіх вучоных, то Лесніковіч прывёў у якасці прыкладаў стварэнне новых мадэляў тралейбусаў і трамваяў, а таксама серыі трактараў магутнасцю ад 30 да 300 конскіх сіл. Шмат дасягненняў адзначана ў галіне медыцыны. Напрыклад, створаная гама лекавых сродкаў, уключаючы сродкі, якія аблягчаюць стан чалавека пры захворванні СНІД. Распрацаваны апарат «Пульмаскан», які дазваляе паменшыць дозу апраменьвання пры абследаваннях ад 100 да 500 разоў. ■

**БелаПАН**

## Рацыянальнае харчаванне за 30 тысяч рублёў

**Канстанцін УВАРАЎ**

Магіляўчанін працаздольнага ўзросту, які жадае рацыянальна харчавацца, павінен патраціць у гэтым месяцы 30 тысяч 321 рубель. Да такой высновы прыйшлі спецыялісты Магілёўскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў, вывучыўшы сярэднія цэны ў магілёўскіх магазінах на 25 асноўных прадуктаў харчавання са «спажывецкага кошыка» працаздольнага мужчыны.

Паводле звестак прафсаюзаў, самы вялікі рост цэнаў сёлета ў студзені прыпаў на капусту, яблыкі, алей і свініну; некалькі ўпалі ў цане крупы, тлушч і чай. Усяго ж у студзені, у параўнанні са снежнем мінулага года, цэны на асноўныя прадукты харчавання ў магазінах Магілёва павялічыліся на 5,8 працэнта. ■

**БелаПАН**

# Горе объекту, которым завладеет Мингорисполком

## Подобно Верхнему городу Минска, возрождение старинной Лошицкой усадьбы останется несбывшейся мечтой

Наталья РАДИНА

**Лошица, одна из трех более-менее уцелевших старинных усадеб в городской черте Минска, передана в собственность Мингорисполкома. Прежний ее владелец, министерство культуры, планировал создать в усадьбе музей прикладного искусства XIX века. Новый хозяин прагматичен и лишен романтических комплексов.**

Первым владельцем этой земли был минский наместник князь Богдан Заславский, получивший ее в награду от великого князя литовского Александра. В конце XVI века Лошица досталась роду князей Друцких-Горских, которые и построили на живописном месте, где Лошица впадает в Свислочь, усадебный дом. В 1724 году фундамент старого дома использовал при возведении дворца граф Прушинский. А в конце XIX века усадьбу достраивал родовитый шляхтич Евстафий Любанский. Им и был создан Лошицкий парк, насаждения которого насчитывают более 40 раритетных для Беларуси видов деревьев.

С Лошицей связаны имена Винцента Дунина-Марцинкевича, Янки Купалы и Якуба Коласа. С 1925 по 1989 годы здесь размещался филиал Всесоюзного института растениеводства, который возглавлял всемирно известный генетик Николай Вавилов. Он собрал в Лошице коллекции растений со всего мира. Сад, опытные делянки, цветники, питомники стали генетическим, селекционным и коллекционным фондом для научно-исследовательской работы белорусских ученых. Поэтому Лошицу вполне можно считать не только памятником природы, архитектуры, но и памятником науки, родиной белорусской научной селекции.



В 1987 году Лошица обрела статус исторического памятника и перешла под опеку министерства культуры. В это же время она стала считаться филиалом Национального художественного музея. В усадьбе стали проводиться работы по консервации, а на территории Лошицкого парка начались археологические раскопки, в ходе которых учеными было найдено капище X века.

Тогда же реставраторы из мастерской Олега Ходыки разработали проект создания на базе усадьбы музея прикладного искусства XIX века. Они предложили создать здесь еще и музей-мастерскую реставрации Лошицкой усадьбы. Поскольку вещей минувшего столетия в фондах художественного музея недостаточно для того, чтобы обставить ими усадьбу XIX века, О.Ходыко предложил создать на базе музея в Лошице литературно-театральный клуб. Чтобы люди могли не только увидеть интерьеры XIX века, но и услышать его язык, музыку, театр. Этот художественный и исторический памятник должен был быть «живым», посвятить его хотели памяти Винцента Дунина-Марцинкевича.

Но вот в Совете министров подготовлено постановление (на утверждении), согласно которому Лошица переходит во владение Мингорисполкома. Собственно, слухи, что на Лошицу «положил глаз» Мингорисполком, ходили не один год. Лошицкий парк еще в 1998 году перешел под контроль унитарного предприятия «Садминскзеленстрой». Теперь этому же ведомству Мингорисполкома достанутся и усадебные постройки.

Если рассматривать финансовую сторону этого возможного распоряжения Совмина, то Лошица вряд ли проиграла. Уже около двух лет в усадьбе не ведутся никакие работы – средства не выделялись, и, соответственно, усадьба разрушается, сад тихо гибнет, парк дичает.

По словам заместителя директора садово-паркового комплекса «Лошица» Евгения Терехова, ни один чиновник даже не пытался здесь что-то сделать, все придерживались принципа «только бы не зацепить» этот проблемный усадебно-парковый ансамбль. Так что, наверняка, министерство культуры с удовольствием освободилось от такого балласта.

Не нужна Лошицкая усадьба и Национальному художественному музею. На нем «висят» еще восемь филиалов, а приоритетных объектов только два — Мирский замок и пристройка к основному зданию музея в Минске.

Но «Садминскзеленстрой» — не бедный минкульт. Объяснить этот феномен государственной политики невозможно. Остается только задаваться вопросом, который сегодня мучает специалистов министерства культуры: «Почему на один и тот же объект одному ведомству выдается в пять раз больше, чем другому?»

Как бы там ни было, за Лошицу можно было бы порадоваться – наконец-то в нее будут вкладывать реальные деньги. Если бы не тревожные слухи о том, **во что** Мингорисполком собрался вложить денежки. Как стало известно, на недавно прошедшем малом градостроительном совете чиновники говорили о том, что по окончании консервационных работ они примут решение **о новом положении парка и усадьбы.** В кулуарных разговорах обсуждается возможность для Мингорисполкома украсить старинную усадьбу рестораном и прочими атрибутами незамысловатого досуга. А некоторые высокопоставленные лица вроде бы уже видят себя бегающими трусцой по парковым аллеям Лошицы, которая может из музея превратиться в самоокупаемый Дом отдыха. На таком фоне вызывает тревожные чувства то рвение, с которым «Садминскзеленстрой» взялся за проведение в Лошицу канализации и водопровода. На очереди — телефонные и электрические линии. Во многих местах парк перекопан, вырубаются деревья.

В подтверждение слухов стало известно из достоверных источников, что руководителя реставрации усадьбы Людмилу Луцевич «убедительно просят» внести изменения в «музейный» проект. Так что, похоже, что музей не совсем то, что грезится Мингорисполкому. Так что вместо реставрации Лошицкая усадьба может получить реконструкцию, которая, возможно, обогатит старинную усадьбу бассейном, саунами, бильярдной и барами. А на трудоемкую реставрацию усадьбы и парка, как обычно, не хватит средств. ■

ЮСТЫЦЫЯ

# Старавойтаву прысуджаныя чужыя грахі

Генадзь БАРБАРЫЧ

Былы старшыня акцыянернага таварыства «Аграпрамысловае аб'яднанне «Рассвет» Васіль Старавойтаў 23 студзеня падаў скаргу пракурору Магілёўскай вобласці. У ёй ён просіць запатрабаваць яго крымінальную справу і прынесці пратэст на рашэнне суда. Нагадаем, што Старавойтаў быў арыштаваны 11 лістапада 1997 года па падазрэнні ва ўчыненні шэрагу гаспадарчых злачынстваў і правёў у турме два гады.

Адным з абгрунтаванняў пратэсту Старавойтава з'яўляецца той факт, што на яго ўскладзеная ўся матэрыяльная адказнасць за крадзяжы ў гаспадарцы «Рассвет». Аднак падчас судовага разбору стала вядома, што адзін з работнікаў АТ «АПА «Рассвет» М.Гецман атрымліваў у касе гаспадаркі 45 тысяч долараў ЗША для перадачы іх у камбінат грамадскага харчавання Мінскага трактарнага завода, але грошай па прызначэнні не перадаў. Зараз ён хаваецца ад правасуддзя. Як піша Старавойтаў, у прыгаворы суда ад 28 траўня 1999 года гэты ўрон «аднесены на мой рахунак і вылічваецца з мяне, пагашаецца маёй маёмасцю і нават 50 працэнтаў вылічваецца з маёй пенсіі. Лічу, што гэта несправядліва і незаконна».

Васіль Старавойтаў разумее, што Гецман, які знаходзіцца ў «бегах», мае нерухомую маёмасць: дом у вёсцы Мышкавічы, кватэры ў Мінску, Клічаве і Бабруйску. Ім таксама пабудаваны катэдж у Бабруйску, па вуліцы Чангарская, які перададзены яго сваяку — былому кіраўніку справамі прэзідэнта Івану Ціцянкову.

Суд Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці прапанаваў былому кіраўніку «Рассвета» забраць каля 40 бутэлек малдаўскага каньяку, канфіскаванага ў яго падчас следства. На думку адваката, вяртанне 34 з 40 канфіскаваных бутэлек, магчыма, звязанае з іскам следчага Смаленцава і павінна пацвердзіць, што канфіскаваная маёмасць цалкам захаваная. ■

БелаПАН

# Выпил стакан воды...

## Применяются ли в Беларуси психотропные средства в отношении подследственных?

Полина СТЕПАНЕНКО

**Владимир Николаевич Равков, 1956 года рождения, в недавнем прошлом — подполковник медицинской службы и проректор по воспитательной работе Гомельского мединститута. Задержан 12 июля 1999 года по подозрению в получении взятки от родителей абитуриентов. С этого времени — единственный представитель «группы взяточников» (в качестве обвиняемых по «делу врачей» Гомельского мединститута проходят 18 человек), кто находился в СИЗО.**

Задержание Владимира Равкова проходило на территории учебного корпуса института, где он арендовал гараж. По свидетельствам очевидцев, В.Равкова волоком тащили в милицейскую машину. В тот же день вечером в общежитие, где живет семья Равковых, ворвались с обыском. Наталье Равковой, жене задержанного, предложили предъявить валюту, которая есть в доме. Н.Равкова показала 10 тысяч долларов США, полученные ее матерью за продажу дома в военном городке Зябровка, где Равковы жили до сентября 1998 года (договор о купле-продаже оформлен в нотариальной конторе 4 сентября 1998 года).

Наталья Равкова обратилась в Правозащитный центр «Вясна» в связи с нарушением прав ее мужа. Она утверждает, что в отношении ее мужа были применены психотропные средства. Вот ее рассказ:

«В ночь на 14 июля у нас в общежитии снова проходил обыск. Ничего не нашли, но в начале третьего сотрудник милиции дал мне телефонную трубку и сказал, что я буду говорить с мужем. Знаете, я так обрадовалась, взяла трубку, он мне говорит: «Отдай все деньги и пистолет с патронами!» Голос мужа я узнала, но монотонность и содержание разговора меня испугали. У мужа был зарегистрированный газовый пистолет. Он хранил его в сейфе на работе и иногда брал с собой в машину. Об этом было известно всем членам семьи. Дома пистолета никогда не было, хотя муж – военный. Фраза о пистолете навела меня на мысль, что с мужем не все в порядке.

На следующий день я пыталась обсудить ночной разговор со следователем В.Кругляковым. Я спросила: «Послушайте, какой пистолет с патронами!?» А он сказал: «А вот про пистолет с патронами забудь, тебе же лучше будет!»

15 июля 1999 года моему мужу должны были предъявить обвинение, и я с адвокатом была в прокуратуре. Там я случайно увидела мужа. Он стоял с милиционером в коридоре. Я подошла, попыталась с ним заговорить. Но он меня не понимал, оставлял впечатление человека заторможенного, с неадекватной реакцией. 16 июля я написала заявление на имя прокурора области и следователя Александрова, где просила провести обследование мужа на предмет его психического здоровья. Заявление осталось без ответа. 12 августа я обратилась с заявлением к прокурору РБ о возможности применения психотропных средств в отношении моего мужа и получила ответ от начальника следственного отдела А.Ракевича о том, что «вопрос о проведении экспертизы будет решен в процессе расследования уголовного дела».

На свидании с мужем через две недели я увидела нормального человека с обычным поведением. На мой вопрос о ночном разговоре насчет пистолета с патронами муж отрицал реальность такого разговора, потом объяснил, что его в тот день допрашивали с 14 дня до 3 часов ночи. Он остался без обеда (в изоляторе временного содержания кормят только раз в день – в обед), а вечером только выпил стакан воды, предложенный следователем Александровым. После этого он не мог сосредоточиться и плохо помнит последующие события. Я говорю: «Что там с тобой было?» Он отвечает: «Я не помню!» Я спрашиваю: «А какой пистолет?» А он: «Что мне сказали, то я и повторил». Я удивилась: «Что же ты совсем не соображал?» Он ответил: «Мне предложили стакан воды. Я выпил эту воду, и с этого момента я вообще все смутно помню».

В течение нескольких дней ему было плохо, его тошнило, что часто является признаком интоксикации. Кроме того, у моего мужа хронический гепатит, но последние несколько лет его анализы крови находились в пределах нормы. После этого эпизода я настояла на проведении биохимического анализа крови, считая, что воздействие токсичного вещества может спровоцировать обострение хронического гепатита. В результатах анализа от 9 августа и 17 сентября 1999 г. видны изменения, характерные для реакции клеток печени на действие какого-то вредного фактора, возможно, медикаментозного средства. Фактически получив подтверждение своим подозрениям, я сделала заявление для прессы. После этого следователь Церахович обвинил меня в «клеветнических вымыслах относительно применения к моему мужу психотропных препаратов» и на этом основании отказывал мне в свидании с мужем в течение полугода. Я продолжаю настаивать, что в отношении моего мужа были применены недозволенные методы воздействия, а полученные от него в таком состоянии показания были использованы для задержания ректора Гомельского медицинского института Юрия Бандажевского.

Мой муж был в дружеских отношениях с Ю.Бандажевским. Они вместе работали над изучением воздействия малых доз радиации на организм человека. Под руководством профессора Бандажевского мой муж защитил кандидатскую диссертацию, а потом работал над докторской. Я считаю, что они пострадали за свою позицию относительно последствий аварии на ЧАЭС. Моего мужа просто использовали как человека, который хорошо знает профессора.

Содержание моего мужа в СИЗО было обусловлено желанием следователя получить от него подтверждение своих первоначальных показаний. Все люди, которые работали с Бандажевским, защищались в основном по тематике: радионуклиды. Работали по методикам изучения накопления радионуклидов в организме. Изучали последствия, которые могут возникнуть. Ездили в Ветку, Светиловичи. Обследовали детей.

Когда первый раз определили уровень накопления, еще не было чётких представлений, как оценить этот уровень. Муж взял технический старый справочник, там написано: «Технические источники с таким уровнем излучения подлежат уничтожению». А этот уровень накопления, представляете – у ребенка.

По нашим с мужем исследованиям получилось, что самое главное не территория проживания, а продукты, то есть эндогенное поступление радионуклидов».

5 июня 2000 г. Наталья Равкова обратилась в Генеральную прокуратуру с заявлением, в котором просила допустить ее в процесс в качестве представителя своего мужа. Генеральная прокуратура РБ отказала ей в этом праве.

13 февраля в Гомеле состоится суд. Судебное разбирательство по «делу врачей» будет вести военная коллегия Верховного суда Республики Беларусь. Придерживаясь принципа презумпции невиновности, мы не можем рассуждать о мере виновности либо невиновности Владимира Равкова и его коллег. Это задача суда. Одно бесспорно: в этом деле были многочисленные нарушения действующего законодательства со стороны следствия. ■

Подготовлено по материалам ПЦ «Вясна»

ВІТРАЖ

## Новае апавяданне Марка Твена

Апавяданне амерыканскага пісьменніка Самуэля Клеменса, які вядомы чалавецтву пад псеўданімам Марка Твена, будзе ўпершыню апублікаванае часопісам «Атлантык манслі». Апавяданне напісанае Твенам 124 гады назад і памер 28 старонак. За гэты твор аўтар знакамітага «Тома Сойера» атрымаў у свой час ганарар на суму 43 цэнты. Тэкст утрымоўвае каля 8 тысяч словаў. Ён мае назву «Забойства, таямніца і вяселле».

Па модзе таго часу Твен разлічваў, што тэма будзе працягнутая і развітая іншымі аўтарамі, якіх павінен быў натхніць галоўны сюжэт апавядання. Аднак гэтага не здарылася. Твор быў адшуканы амерыканскім адвакатам Патрыкам Марцінам у 1995 годзе. Цяпер за правы выдаць невялічкае апавяданне разгарэлася сапраўдная канкурэнтная барацьба, перамогу ў якой атрымаў часопіс «Атлантык манслі». У якую суму каштавала яму гэтае права, застаецца таямніцай. Стала вядома, што гэтая навела Марка Твена выйдзе ў свет і асобнай кнігай. Гэта адбудзецца ў верасні бягучага года.

Інтэрфакс

## Італьянцы за жаночую прывабнасць

Шэсць з кожных дзесяці італьянскіх мужчын – прыхільнікі правядзення пластычных аперацыяў іхным жонкам, якія дасягнулі 35-гадовага ўзросту. Як сведчыць апытанне грамадскай думкі, за гэта выступаюць 63% італьянцаў, але адначасна 25% рэспандэнтаў такая ідэя не прыходзіла на розум. Уласная знешняя прывабнасць ёсць вельмі важная для 52% італьянскіх мужчын, таму яны, не раздумваючы, гатовыя прыняць хірургічнае ўмяшальніцтва спецыялістаў. Апроч таго, прызналіся, што для захавання сваёй знешнасці яны выкарыстоўваюць сродкі супраць старэння, такія, як крэмы ды іншыя касметычныя сродкі, якімі шырока карыстаюцца жанчыны.

## Францыя пачынае рэканструкцыю Луўра

Нарэшце прынятае рашэнне пра рэканструкцыю Луўра – аднаго з самых вядомых музеяў свету, першага па колькасці наведвальнікаў. Усяго будзе рэканструявана і рэстаўравана 8 тысяч кв. метраў выставачных плошчаў, у тым ліку галерэя Апалона і залы, дзе экспануецца «Джаконда» Леанарда да Вінчы і «Венера Мілоская». Кошт работ, якія працягнуцца пяць гадоў, ацэньваецца ў 20 мільёнаў еўра, пры гэтым 12,5 мільёна паступяць ад мецэнатаў і прыватных кампаніяў. Апроч таго будуць рэстаўраваныя фасады, унутраны двор і скверы, якія атачаюць музей. Плануецца таксама мадэрнізаваць і пашырыць сайт Луўра ў інтэрнэце, які штодня наведваюць 18 тысяч чалавек. На гэта будзе выдаткавана 1,5 мільёна еўра.

СПОРТ

## А пакуль што трасу маладым...

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Пакуль асноўны склад зборнай Беларусі па біятлоне рыхтуецца да стартуючага трэцяга лютага ў славенскай Паклюцы чэмпіянату свету па біятлоне, дублёры нашых асноўных біятланістаў прымаюць удзел у чэмпіянаце Еўропы, які апошнім часам і праходзіць менавіта з удзелам дублёраў.

Так, на гэты чэмпіянат Еўропы ў складзе беларусаў адправіліся Пётр Івашка, Іван Песцераў, Сяргей Новікаў, Рустам Валіулін, Аляксандр Усціёнаў. Зрэшты, першы калісьці быў чэмпіёнам свету ў асноўным складзе нашай эстафетнай каманды. Беларусак прадстаўляюць Людміла Лысенка, Вольга Назарава, Кацярына Грыгор'ева, Алена Валкавец, Ксенія Зыкунова і Святлана Дзірко. Першыя тры ў гэтым сезоне прымалі ўдзел у спаборніцтвах розыгрышу Кубка свету, але не дабіваліся там абсалютна ніякіх поспехаў. Прыма беларускай зборнай Святлана Парамыгіна, як і асноўны склад беларускай мужчынскай зборнай, рыхтуецца да чэмпіянату свету ў італьянскім Антхольцы, дзе праходзіць апошні этап Кубка свету.

Аб выніках гонак на чэмпіянаце Еўропы – у наступным нумары НАШАЙ СВАБОДЫ.

## Фёдараў пераходзіць у мірнае русла

Аляксей СТАЎСКІ

Дзве нічые – такі вынік чарговых гульняў беларускага гросмайстра Аляксея Фёдарава на міжнародным шахматным турніры ў галандскім горадзе Вейк-ан-Зэе. Спачатку Фёдараў згуляў унічыю з пераможцам знакамітага Гары Каспарава расіянінам Уладзімірам Крамнікам, што можна лічыць вельмі ўдалым вынікам, а пасля нічыйны вынік, вельмі нехарактэрны для бескампраміснай гуляючага Фёдарава, быў зафіксаваны ў партыі з галандцам Люкам ван Вэлі.

Фёдараў, такім чынам, пасля дзевяці тураў з трынаццаці, набраў тры з паловай ачкі і дзяліць адзінаццаты-дванаццаты радкі з балгарынам Весялінам Тапалавым. А лідзіруюць Гары Каспараў і іспанец Аляксей Шыраў, якія набралі па шэсць з паловай ачкоў, але перавага аддаецца Каспараву, які перамог іспанца ў асабістай сустрэчы.

## Трэцяе альбо чацвёртае?

Уладзімір ДАЎЖЭНКА

Сёння двума матчамі паміж маскоўскім «Спартаком» і рыжскім «Сконтам», а таксама мазырскай «Славіяй» з ашгабадскім «Капетдагам» завяршыцца паўфінальная частка футбольнага турніру «Кубак чэмпіёнаў Садружнасці». Першы з двух паядынкаў хутчэй за ўсё стане своеасаблівай рэпетыцыяй фіналу, які пройдзе ў нядзелю. Расіяне забяспечылі ўжо месца ў ім, латышы наўрад ці саступяць з другога радка, што дае права таксама ўздзельнічаць у галоўнай гульні спаборніцтваў.

Чэмпіён Беларусі ў лепшым для сябе выніку можа разлічваць на агульнае трэцяе месца, але ва ўсялякім разе «Славія» папоўніць свой бюджэт, таму што толькі за выхад у паўфінал мазыране атрымалі 8 тысяч долараў.

Галоўную мэту – пакінуць на наступны дзесяты турнір за чарговым беларускім чэмпіёнам месца ў вышэйшай лізе – наша лепшая каманда выканала, што на фоне паразы аднаго з адвечных фаварытаў – дынамаўцаў з Кіева – выглядае вялікім поспехам.

Больш дэталёвы агляд Кубка мы прапануем вам у наступным нумары, у панядзелак.

# Галицкие националисты и восточные конформисты

## На Западной Украине люди в гораздо большей степени живут духовными ценностями, чем в других регионах республики

Анатолий ПОПОВ, Харьков

**Украина 22 января отметила День Соборности. Именно в этот день в 1919 г. в Киеве на Софийской площади было торжественно объявлено о соединении украинских земель бывшей Российской империи (Украинской народной республики) и украинских земель бывшей Австро-Венгерской империи (Западно-Украинской народной республики, созданной в Галичине) в одно государство. Просуществовало это государство лишь год.**

Окончательное объединение Галичины с остальной Украиной произошло в сентябре 1939 г., и в долгосрочном итоге имело совсем не те последствия, которые планировал Сталин, идя с Гитлером на раздел Польши. Сейчас зачастую поговаривают, что курс нынешнего украинского независимого государства, которое зачастую противопоставляет себя России, — во многом результат влияния «галицкого национализма», не свойственного остальным украинцам.

Вопрос о том, как могут 5 миллионов населения трех областей определять политику 50-миллионной страны, звучит уже почти десять лет и остается чисто риторическим. Между тем жизнь ежедневно дает на него ответы. Сколько народу в организованном порыве любви к президенту заполнило в русскоязычном Харькове крупнейшую площадь Европы? От 50 до 80 тысяч. В Донецке, Луганске, Днепропетровске и многих других городах их количество также исчислялось десятками тысяч. А сколько во Львове, где на прошлых выборах Кучма набрал гораздо больше голосов, чем в вышеупомянутых городах? Одна тысяча. О численности митингующих в Ивано-Франковске и Тернополе СМИ не сообщали, но известно, что в числе лидеров эти областные центры также не были. Кроме того, известно, что Ивано-Франковск оказался единственным городом на Украине, где суд решил, что палатки участников акции «Украина без Кучмы» не мешают гуляниям вокруг новогодней елки, и отменил решение властей о запрете на их установку. На востоке страны суды проштамповывали решения властей. А когда в прошлом апреле Украина была столь же организованным образом охвачена досрочным голосованием на апрельском референдуме, то во Львовской области так проголосовали 38% населения, тогда как в Харьковской, Донецкой и Луганской — 65-66%.

Отчего административный ресурс в Галичине не работает так, как на остальной Украине? Власть там другая или люди? Власть областная и районная везде на Украине назначается президентом, который исходит из одних и тех же принципов. И с населением Галичины тоже пытается работать в соответствии с задачами неспокойного для Украины времени. Так, в декабре Тернопольское облоно распорядилось, чтобы «в каждой школе администрацией был назначен человек, который к определенному времени каждый день должен представить в городской отдел образования отчет с места любых событий, а отдел, в свою очередь, передаст информацию в облгосадминистрацию». В числе тем для информации указаны «акции при участии народных депутатов, характеристика активности общественных организаций (собрания, митинги, манифестации и тому подобное)». И тернопольские учителя стали информировать — но сперва не администрацию школы и области, а агентство УНИАН, которому сообщили, как из них хотят сделать стукачей. А учительский профсоюз области собрался и инициативу облоно осудил. Только, скорей всего, не была эта инициатива чисто тернопольской, а решили ее в порядке эксперимента испробовать в нескольких областях из разных регионов. Только там все идет по плану, без утечек информации. Ведь учителя — ударная сила всех акций по всенародной поддержке того, чего надо власти. В этом они вышли на европейский уровень — попали в отчеты ПАСЕ и ОБСЕ о прошлых выборах со своей ретивой агитацией за президента на рабочих местах. Но с тернопольскими учителями осечка вышла. Потому что люди в Галичине другие. И не только в отношении к политике. Уровень самоубийств во Львовской области — 9 на 100.000 населения, в Тернопольской — 11, в областях восточной Украины — от 30 до 42. Уровень абортов в Галичине также в 4-5 раз меньше.

Фото К.ПАЗЫНЯКА

Не спешите объяснять это влиянием религии. Оно велико. Но в соседних Чехии и Венгрии, где коммунистический режим просуществовал почти столько же, сколько на Западной Украине, только в более смягченной форме, влияние Церкви невелико. По моему мнению, галичане такие, как они есть, не потому, что религиозны, а напротив: они религиозны в силу своей пассионарности. Поэтому галичане в отличие от прочей части украинского народа создали по крайней мере зачатки гражданского общества. Так, проблема непомерных штрафов для СМИ в связи с якобы причиненным моральным ущербом остра для всей Украины. Но только галицкие журналисты смогли отправиться из Львова в Киев и неделю протестовать там, требуя отмены этих штрафов. Остальная провинциальная журналистика молчала. И будет молчать, а скажут учредители — напишет передовицы о том, как подобные штрафы воспитывают чувство ответственности.

От этой же пассионарности галичан — и желание навязать соотечественникам по другую сторону Збруча свое отношение к проблеме языка, свое видение государственной политики. Это результат того, что здесь гораздо в большей степени живут духовными ценностями, чем жители остальной Украины. Автор именно такой духовности не разделяет, но вынужден признать, что для его земляков какая-либо духовность вообще нетипична. Конечно, изрядно потрудившись, можно найти среди них людей, у которых беспокойство происходящим в стране выплескивается за стены собственной квартиры. Но гораздо меньше придется трудиться властям, чтобы заполнить площади городов восточной Украины биомассой, готовой поддержать все, что ей прикажут — и референдум о замене президентства гетманатом, и закрытие газет и телеканалов на русском языке, и даже перевод русского и украинского языков на китайскую графику.

Независимая газета

## Алімпійскія гульні нудзістаў

Алесь ШМЯЛЁЎ

Праз амаль паўгода пасля правядзення летніх алімпійскіх гульняў у аўстралійскім горадзе Сіднеі і праз тры пасля правядзення там жа паралімпійскіх гульняў (сярод інвалідаў), у Сіднеі прайшлі алімпійскія гульні сярод... нудыстаў. Трэба прызнаць, алімпійскімі іх можна назваць толькі з вялікай нацяжкай, бо віды спорту, у якіх спаборнічалі на пляжах Сіднея агаленыя спартсмены, цяжка падагнаць пад алімпійскую класіфікацыю. Гэта скачкі ў мяшках са звязанымі нагамі, кіданне лятаючых талерак, паяданне пончыкаў на хуткасць і іншыя. Да стандартных спаборніцтваў можна аднесці хіба толькі плаванне, ды і тое ў акіяне.

Нудзісты дабіваліся права на правядзенне падобных гульняў апошнія васемнаццаць гадоў, і мэта іх, па словах арганізатараў, не столькі ў нейкіх медалях і выніках, колькі ў канстатацыі таго, што нудысцкі рух жывы і квітнее.

Удзелу беларускіх спартсменаў у першых нудзісцкіх гульнях не было. Напэўна, занадта дарагое задавальненне злётаць на пляжы Аўстраліі з мэтай пазагараць. Няхай сабе і цалкам.

## Задача: завяршыць сезон з аптымізмам

Аляксей СТАЎСКІ

Апошнія дзве гульні правядуць баскетбалісты нацыянальнай мужчынскай зборнай Беларусі ў рамках адборачнага турніру да чэмпіянату Еўропы. Паколькі з-за вельмі няўдалага выступлення ў першым крузе беларусам ужо нічога не свеціць, акрамя апошняга альбо передапошняга месца, асноўная задача на гэтыя гульні – паэксперыментаваць, згуляцца і набрацца аптымізму на наступны адборачны турнір, цяпер ужо да чэмпіянату свету.

Першую гульню беларусы ўжо згулялі ў сераду ўвечары з нацыянальнай камандай Эстоніі, якой у першым крузе саступілі ў Мінску з лікам 66:81. У Таліне зноў паражэнне, але на гэты раз з лікам 89:91.

Другую гульню беларусы правядуць у суботу ў мінскім палацы спорту са зборнай Аўстрыі, якой чатыры месяцы таму ў Вене таксама саступілі. Пачатак гульні ў 18 гадзінаў.

У гэтым жа турніры з дзевяці згуляных матчаў беларусы перамаглі толькі ў адным – на сваёй пляцоўцы з баскетбалістамі Чэхіі.

Галоўны трэнер беларусаў Аляксандр Барысаў асноўныя рэсурсы ўзмацнення гульні нашай баскетбольнай зборнай бачыць у вяртанні ў нацыянальную каманду ўжо амаль стаўшага расіянінам Валерыя Дайнэкі, прыездзе некаторых баскетбалістаў, якія зараз вучацца ў універсітэтах ЗША і гуляюць за тамашнія каманды, і наборы аптымальнай формы цяперашнімі баскетбалістамі зборнай. Застаецца паверыць і чакаць паспяховых выступленняў, бо пакуль што за сваю гісторыю беларуская зборная згуляла 50 гульняў, з якіх значную большасць прайграла. Трэба ўжо мяняць статыстыку на станоўчую!

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэдзьік»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 86 Нумар падпісаны ў друк 25/01/2001 (18.00) Наклад – 15.390